# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Біскупская вул. **12.** Рэдакцыя адчынена: **12—2** штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 30 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год I. — Вільня. Пятніца, 7-га кастрычніка 1921 г. — № 15.


## Выразны курс.

Штотыдня мы адтрымоўваем провінцыяльныя корэспондэнцыі аб барацьбе з беларускаю школаю таго, ці іншага польскага школьнага інспэктара, штотыдня мы зьмяшчаем гэтыя, як раней мо' шмат каму думалася, прыкрыя праявы адміністрацыйнае сваволі школьнае ўлады на мясцох.

Асабліва ўеўся, напэўна ўсім нашым чытачом у памяць Валожынскі школьны інспэктар. Як відаць, дык у яго павеце ідзе найэнэргічнейшае згаманьне беларусаў за сваю школу, але й ня меней энэргічна гасяцца ўсе спробы нашых грамадзян так, ці йначай адваяваць належнае месца для свае школы.

Валожынскі інспэктар ужо навет заяўляе, што і прыватным беларускім школам у яго павеце ня можа быць месца, бо ў павеце гэтым беларусаў быццам і няма, як здаецца заўзятаму інспэктару.

З сягоньня зьмешчанай у нас корэспондэнцыі з заявай беларускіх сялян, прысланай у Беларускую Школьную Раду ўсё аб тым-жа Валожынскім павеце, усё аб тым самым інспэктары, можам ужо давэдацца, што не з свае галавы бярэ гэты інспэктар способы змаганьня з беларускай школаю. Інспэктар проста заяўляе што ён *толькі спаўняе тое, што яму загадвае Міністар Прасьветы.*

А раз гэта так, дык значыць не ў інспэктарох тут уся рэч.

Ясна зусім, што істнуе выразны антыбеларускі курс польскае школьнае палітыкі на Беларусі.

Беларусы як-бы пастаўлены ў палажэньне, вельмі падобнае да таго, якое ўжо, дзякуй Богу, перажылі пад расейскім панаваньнем, калі культура нашая лічылася нічым, а ў найлепшым выпадку так сабе нейкім цікавым кавалачкам аднаго цэлага—агульнарасейскага.

Няўжо-ж, сьледам за прыкладам царскае русыфікатарскае школы будуць ужывацца й польскаю ўладаю дарэмныя натугі ў кірунку дэнацыяналізацыі нашага народу, ў кірунку простых, зусім ня новых пад сонцам, забаронаў нашаму сялянству закладаць свае, беларускія школы, ў найгоршым выпадку ўжо навет і на свой уласны кошт?

Няўжо будуць, замест нашых беларускіх школ, закладацца ў вёсках беларускіх школы польскія?

Але якая з гэтага карысьць перш за ўсё тым, хто сілаю спадзяецца змусіць нашага селяніна спалянізавацца, зьмяніць душу сваю на чужы ўзор?

Прыкра, ведама-ж ад таго, што за народам нашым дасюль яшчэ ня прызнаецца права на сваю нацыянальную, хаця-бы, школу. Але яшчэ больш прыкра ад таго, што сучасны досіць выразны антыбеларускі курс школьнае палітыкі гадуе пачуцьцё нацыянальнага абурэньня ў сэрцах сьвядомых беларусаў, разьюшвае простыя душы беларускай дэмократыі да непатрэбных разьмераў злосьці, можа часам навет і шовіністычнай. Нам трэба памятаць адно, каб не перасаліць у сваім пачуцьці, ня губляць халоднае развагі ад справядлівага часамі гневу.

Трудна са школамі цяпер, але-ж мы перажылі ўжо й пасьпелі крыху запомніць яшчэ труднейшае нацыянальнае бяспраўе пад гнётам русыфікатарскай палітыкі маскоўска-царскай адміністрацыі. Перажылі—і сябе зусім ня страцілі.

Перажывем напэўна і сучасныя прыкрасьці.

Мы толькі цьвёрда памятаць павінны, хто мы, якой нацыянальнай сям'і мы дзеці.

Ніякая палітыка барацьбы з нашым нацыянальным рухам, з нашым культурным разьвіцьцём нас не перародзіць,

Шкада толькі, што палітыка гэтая можа выхаваць у некаторых з нас досіць непажаданыя прывычкі, даючы сабою дрэнныя прыклады.

Ня так страх бярэ за тое, што дзеці беларускія можа й змушаны будуць навучацца розных навук у чужых школах, на чужой мове, як за тое, што ня вельмі добрую школу грамадзка-палітычнага жыцьця праходзім усе мы.

Курс польскае школьнае палітыкі па глухіх куткох нашых досіць выразны, дык пастараймася ня згубіць да яго цікавасьці, адкіньма толькі ўсякую думку аб тым, што мэтоды гэтай палітыкі, способы барацьбы з нашай школай хоць калі-нібудзь будуць апраўданы жыцьцём. Аўторы прасьледаваньняў беларускасьці можа дачакаюцца яшчэ таго, што самі асудзяць іх.

## Верма ў сваю школу.

III.

Усім ведама, што ў дарэвалюцыйнай Расеі бюрократызм быў пабудованы вельмі спрытна: меншыя вінцікі дзяржаўна-адміністрацыйнага мэханізму, як належыць, былі падпарадкаваны большым, а дзеля моцнай трываласьці гэткага парадку паміж начальнікамі і падуладнымі істнавала вялізная розьніца ў палажэньні, як праўным, так і матар'яльным.

У галіне прасьветнай бюрократызм быў, праўда, не такі, як у якіх-небудзь губэрнатарскіх канцэлярыях, але розьніца палажэньняў вучыцельства з аднага боку і прасьветнае адміністрацыі з другога — была й тут вельмі відочная, навет болей рэзкая, як у іншых мясцох.

Ня будзем спыняцца на розных ступенях дарэвалюцыйнае расейскае школы,—бо гэта вельмі сьвежа яшчэ ў грамадзянскай памяці, нарэшце бясьсьмертныя ёсьць малюнкі футлярных пэдагогаў і ў расейскай, моцна разьвітай, бэлетрыстыцы.

Пазволім сабе прыпомніць толькі праўнае палажэньне народнага вучыцеля ў дарэвалюцыйнай Расеі, прыраўнаваўшы яго да гэткага-ж самага палажэньня непасрэднага, найбліжэйшага начальства—інспэктара народных школаў.

Сказаць, што вучыцель тады меў якія-нібудзь правы — значыць сказаць лішняе. Юрыдычнае палажэньне народнага вучыцеля было такім, што па нейкай дапатопнай інструкцыі, ці то па „Общему Положенію о Крестьянах“, выданаму, здаецца, яшчэ Аляксандрам II, вясковага, напрыклад, вучыцеля мог саджаць у „халодную“ навет сельскі стараста, ці валасны старшыня (розьніца невялікая) на 3, ці **4** дні.

А інспэктар народных школаў—гэта ўжо чын, ня ніжэй „статскаго советника“, як гаворыцца „шышка“. Матар'яльная розьніца паміж гэтымі, службова блізкімі, людзьмі была прост нейкаю прорваю. Калі вучыцель даставаў у месяц 30 руб. пэнсіі, дык яго беспасрэдны начальнік—інспэктар—рублёў 300, знач. у 10-разоў болей.

З боку праўнага вучыцель быў зусім у руках інспэктара; хаця, праўда, назначала і звальняла кожнага вучыцеля. Дырэкцыя Народных Школаў (інстытуцыя на цэлую губэрню), але гэта была простая фармальнасьць. Інспэктар часта мог рабіць, што хацеў, пасьля даносіў у Дырэкцыю, каб там адбытыя факты былі занатаваны на паперы.

Разумеецца, што аўтор гэтых радкоў мае на ўвазе, гэтак званыя няземскія губэрні ў быўшай Расеі. У губэрнях, дзе істнавалі земствы, палажэньне народнага вучыцеля ў сэнсе яго залежнасьці ад інспэктара магло быць крыху лепшым.

Ясна, што пры гэткім разьмежаваньні вучыцеля ад інспэктара, гэты апошні, зьяўляючыся, хаця-бы толькі раз у год ці ў два гады на рэвізію ў школу, часта наводзіў жах ня толькі на палахлівых вясковых дзетак, а і на бяспраўнага, па сутнасьці, іх вучыцеля. Чым дурней быў інспэктар, тым больш прыкрасьці рабіў ён вучыцельству свайго павету. А ў Сакольшчыне ў 1914 годзе інспэктар Дзьмітрэўскі ня надта дужы быў на розум, затое русыфікатар і чорнасоценец — пераканаsuccessful. Калі аднаго разу я заўважыў яму, што невыкладаньне ксяндзом у маёй школе Закону Божага пагражае зачыненьнем школы, бо сяляне могуць у школу, саўсім сьвецкую, дзяцей не пасылаць, дык пачуў звычайны бюрократычны адказ, што мне няма чаго рабіць розныя „паслабленьні“, бо ёсьць нейкі закон, паводле якога, сяляне, збайкатаваўшыя школу, не дачакаюцца адчыненьня яе нанова, ў тым самым месцы, раней як праз 20 гадоў(?), калі-б навет пасьля яны самі аб гэтым прасілі. Ці сапраўды нейкі гэтакі дзікі, антыпрасьветны закон істнаваў, я гэтага ня спраўдзіў і ня ведаю.

Вось гэткі, дбалы аб народнай прасьвеце, інспэктар народных школаў у 1914 годзе пад весну (на другі год майго вучыцельства) прыбыў першы раз равідаваць маю школу.

Але раней мусім спыніцца на тым, што такое павінна была выяўляць сабою тагочасная інспэктарская рэвізія, паводлуг істнаваўшае з 90-х гадоў школьнае інструкцыі. Інспэктар меў сваім абавязкам, зьявіўшыся ў школу, пракантраляваць тое, як вучыцель выкладае лекцыі і калі ён робіць гэта нядобра, не па мэтодзе, дык папрáвіць яго, даўшы пробную лекцыю замест вучыцеля. Разумеецца мог інспэктар правяраць і агульныя пазнаньні вучняў, даведаўшыся ў вучыцеля, які ўжо пройдзены курс па кожным прадмеце.

Мой інспэктар, ці гэтага ўсяго ня ведаў, ці проста й ведаць не хацеў, бо пачаў сваю рэвізію з арыгінальнага, форменнага экзамену вучняў у іх „политической благонадежности“.

Замест каталіцкіх абразоў у школе быў ужо праваслаўны абраз Збавіцеля і два вялізныя патрэты: Мікалая II й яго жонкі, прысланыя ў школу казённым коштам, як абавязковыя разам з рознымі чорнасоценнымі брашурамі Пурышкевіча, Нечвалодава і інш.

Інспэктар, гледзячы на царскі патрэт, спытаўся ў аднаго з вучняў, хлопчыка з II аддзяленьня:

— Чый гэта патрэт?

— Чаркі, — адказаў гаркавы малыш.

— Як, як? — перапытаўся інспэктар.

— Чаркі,—паўтарыў вучань.

— А хто такі цар? — пытаецца інспэктар далей.

У кніжцы вучня быў поўны тытул цара, якога я, праўду кажучы, не навязваў такі дзецям, каб зналі, але інспэктар трапіў на гэткага вучня, які чамусьці тытул царскі крыху знаў напамяць. Адказваючы інспэктару, вучань адбубніў усё, як трэ' было, але на няшчасьце ў канцы пераблутаў царскае імя з бацькавым: сказаў не „Мікалай Аляксандравіч“, а „Аляксандар Мікалаевіч“. Дзеля таго, што бацькаўскае імя, разам з уласным імем каго-б там ні было, беларусамі ня ўжываецца, вучань гэтую блутаніну мог дапусьціць надта лёгка.

Моцна абурыўся інспэктар, калі спытаўшыся тое самае амаль ня ў кожнага вучня, пабачыў, што царскіх і царыцыных тытулаў ня ведае ніводзін.

Пачаў ён тады цікавую, катэхізычную гутарку.

— А што нам дае цар?

— Ўсё,—з лёгкай вясёласьцяй адказаў адзін кульгавы, але вельмі бойкі хлопчык з III аддзяленьня, зразумеўшы, відаць, чаго інспэктар хоча.

— Калі табе хто дасьць вось гэты, што на табе, падраны каптанчык,—пытаецца далей інспэктар, — дык што ты павінен рабіць.

— Дзякаваць,—гэтак сама адказвае кульгавы хлопчык.

А, вось, ты сказаў, што цар нам усё дае, вось даў вам школу, вучыцеля, дык што-ж мы павінны рабіць?

— Дзякаваць цару,—хітра паўтарае хлопчык.

— А скажы малітву за цара, — загадвае інспэктар.

Я папрабаваў няспрытна ўмяшацца, сказаўшы інспэктару, што дзеці —ўсе каталікі і, праз гэта, я ня вучыў іх ніякіх малітваў, тым больш, што гэта абавязак законавучыцеля.

— Усё роўна,—перабіў мяне тут-жа пры вучнях інспэктар,—малітва за цара адна для ўсіх, як, напр., у войску тут вось стаіць рускі, каля яго, жыд, паляк, латыш, а малітва для ўсіх адна. Як жа-ж мы можам дзякаваць цару?—запытаўся ён, гледзячы на вучня.

— Маліцца за яго, — адказаў той спрытна.

— Ну, вось! А вы ўсе якраз і ня ўмееце маліцца.

Калі пасьля гэткай вясёлай гутаркі інспэктар перайшоў да таго, з чаго трэ' было й пачаць, да праверкі дзіцячых пазнаньняў і, патрэбаваў ад мяне сшыткі пісьменных работ старшых вучняў, дык тутака знайшоў такую „крамолу“, што далей нічога й гаварыць не хацеў, так і паехаў нічога не запісаўшы ў візытацыйную кнігу, спрабаваўшы зрабіць мне асабіста „отеческое внушеніе“ ўжо ў маім вучыцельскім пакоіку.

Рэч у тым, што ў сшытках нічога ня мог зразумець велікарос-інспэктар: перад ім была беларуская работа. Ён накрычаў на дзяцей, што гэта нейкі скалечаны „русскій язык“, а яны ўсе рускія, бацькі й дзяды іх былі рускімі і г. д. і г. д.

Глянуўшы на два каталіцкіх абразы ў маёй кватэры (адзін цесьненькі пакоік), на павешаныя тут-жа на сьцяне адзін каля аднаго ў парадку нумары газэтаў: „Наша Ніва“, „Рідній Край“, „Биржевыя Вѣдомости“, інспэктар моцна скрывіўся і запытаў:

— Якія газэты вы чытаеце? Вось гэтыя?

Я адказаў, што так.

— А Эвангельле вы чытаеце?

Я адказаў, што будучы маленечкім у царкоўнай школе аж некалькі разоў перайшоў гэтую кнігу, а цяпер ня чытаю.

— Вы, быць можа пашукалі-б сабе іншую, болей падхадзячую працу,—сказаў інспэктар мне, пачуўшы адказ, што мне й гэта яшчэ не абрыдла, хаця цяжкая і няўдзячная.

На гэтым мы разьвіталіся. Пасьля ад інспэктарскага дзелавода я даведаўся, што справа аба мне пойдзе на разгляд губэрнатара і што мне ня шкодзіла-б самому выбраць: Архангельскую губэрню, ці Нарымскі Край.

На гэта я адказаў, што падумаю, але летам 1914 году паўстаўшая вайна змусіла думаць і мяне й інспэктара аб іншых рэчах. Я пайшоў на вайну, а ён эвакуаваўся ў Маскоўшчыну.

Вось як цяжка было ўводзіць беларушчыну ў школу ў праклятыя, нядаўна мінулыя, часы...

За маю юнацкую рызыку заплатаю было колектыўнае пісьмо маіх старшых вучняў, якое яны, выпадкова даведаўшыся, ў якой часьці войска я служыў, выслалі мне ў Чынную Армію.

Я адтрымаў гэтае пісьмо ўва Ўсходняй Прусіі недалёка ад станцыі Тольмінкэмэн у двары Балюпэнэн... Дзеці клікалі мяне ў школку...

Здаровы, малады, ўжо загартаваны жаўнер з вялізнымі мазалямі на руках ад працы ломам і кіркаю (мы капалі акопы) — я ня мог утрымацца ад сьлёз, якіх ад дзіцячых гадоў сваіх я даўно ўжо ня меў на вачох. Прачытаўшы пісьмо дзяцей, я схаваўся ад сваіх таварышоў-жаўнераў, каб яны ня бачылі бурнага плачу майго. Жаўнеру нельга плакаць, стыдна і няпрыгожа. Але-ж ува мне прачнуўся вучыцель. Нешта душыла мне грудзі, сьлёзы, як боб, сыпаліся з вачэй...

Але гэта былі сьлёзы радасьці...

**М. К.**

# З мінулых часаў.

**Вялікі Гэтман Ян-Кароль ХАДКЕВІЧ.**
(1621—24—IX—1921).

Хай тыя ведаюць, што зьявяцца па нас,
Усю праўду пра жыцьцё у наш і прошлы час.
*М. Багдановіч.*

Роўна 300 гадоў споўнілася 24 верасьня са дня сьмерці слаўнага Гэтмана Яна-Кароля Хадкевіча.

Сын старасты Жмудзкага і губэрнатара Лівонскага Яна-Гароніма Хадкевіча, моцна бараніўшага інтарэсы Літоўска-Беларускага Вялікага Княства на Люблінскім Сойме, Ян-Кароль унасьледаваў ад бацькі найлепшыя якасьці яго нораву. Радзіўся ў 1560 годзе.

Скончыўшы навукі у Віленскай езуіцкай акадэміі, малады Хадкевіч паступае да войска і пад правадырствам вядомага ваякі, Яна Замойскага, праходзе баявую жаўнерскую школу ў палёх Малдавіі.

Вярнуўшыся з вайны да свайго двара, ён працягавае і ў мірны час аддавацца практыцы ў ваяўніцтве і сабраўшы дружыны са свае чэлядзі і хлопаў, робіць з імі розныя манэўры і заняткі.

Праз нейкі час бачым яго ў доўгай падарожы па Італіі, Гішпаніі, Францыі, Англіі і Нямеччыне, у радох гішпанскае арміі ён бярэ удзел у вайне проці Галяндыі.

Калі пачалася вайна са швэдамі, Хадкевіч ня стаў чакаць, калі яго паклічуць але сам аддаў сваю зброю дзеля абароны і ратунку Бацькаўшчыны.

Пасьля дымісіі Яна Замойскага, Хадкевіч становіцца на чале войска. Недахват грошай у высіленага Гаспадарства прымушае яго ахвяраваць свой дастатак на утрыманьне войска. Маючы ня больш 4000 жаўнераў, ён неаднакроць разьбівае швэдаў—гэтых непераможных датуль ваякаў. Асабліва выдатнай ёсьць бойка пад Кірх-Гольмам, дзе Хадкевіч з 2400 коньнікаў і 1000 пешых жаўнераў разьбівае моцную швэдзкую армію, зложаную з 14000 чалавек з гарматнім узбраеньнем пад правадырствам самога караля швэдзкага слаўнага палкаводца Караля IX-га. Швэды пакінулі на полі бойкі 9000 забітымі, сам ранены кароль ледзьве ўцёк, усе гарматы, 60 пратэсаў і штандараў засталіся перамогшым. Нямецкі Цэзар, Ангельскі Кароль, турэцкі султан, ажно Пэрсідзкі шах віншуюць слаўнага гэтмана з вялікімі баявымі ўдачамі.

Сойм і Кароль жалуюць яго за баявыя заслугі Вялікім Гэтманам Літоўскім і Каронным; у першы і апошні раз гэтыя пасады злучаюцца ў аднэй асобе.

Пасьля Швэдзкае вайны Гэтман трапляе ў маскоўскі паход. Тутака яму даводзіцца браць удзел у аблажэньні Смаленскай крэпасьці, а, пасьля яе здачы, ў баёх пад Мажайскам і Масквой. На паўд.—захадзе ён сваімі дзеяньнямі варочае Князьству і кароне Северскую і Чарнігаўскую зямлю.

У нязьлічаных паходах цячэ яго жыцьцё...

Надышоў 1621 год і страшная турэцкая пагроза ўстае з поўдня над разьдзіраным унутранымі спрэчкамі Гаспадарствам.

Пэўны сын Айчыны Ян-Кароль Хадкевіч знаўся ў войску і, як Вялікі Гэтман, вядзе дзельных беларускіх, польскіх, літоўскіх жаўнераў і украінскіх казакоў на ворагаў Крыжа і Бацькаўшчыны.

У Хоціме на Днястры Султан Турэцкі Асман II-гі з 200.000 войскам аблажыў старога гэтмана, ў якога была ледзьве 35.000 жаўнераў і казакоў. Хворы, разьбіты, змучаны 61-гадовы гэтман усё яшчэ трымаецца на кані, бярэ удзел у бойках, страшыць ворагаў сваім грозным імем.

Усё жыцьцё яго праляцела ў бойках ды паходах і ў Хацімскай крэпасьці прад тварам ворага пад сьвіст куляў і снарадаў ён спаткаў сярод баявых таварышоў сьмерць. Пасьля вайны далёка ад сваіх зямель у украінскім месьце Астрозе супакоіліся косьці вялікага ваякі.

Сярод слаўных дзеячаў нашае мінуўшчыны ў ваяўніцтве Гэтман Я.-К. Хадкевіч зьяўляе сабою зорку першае вялікасьці і будучыя гісторыкі нашых войскаў шмат карыснага і павучальнага будуць чэрпаць з вывучаньня паходаў і баявых дзеяньняў дзельнага Гэтмана. Паміж іншым трэба заўважыць, што пры Хадкевічу яшчэ у XVI в. у войсках Кароны і Княства карысталіся ўжо такімі шыхаваньнямі і манэўраваньнямі, якія лічацца адкрыцьцем Заходне-Эўрапэйскае тактыкі навейшых часаў.

**А. Р.**

Грамадзяне, спаўняйце сваю павіннасьць, запісуйцеся ў „Т-ва Беларускае Школы“!

**Францішак Аляхновіч.**

# ПТУШКА ШЧАСЬЦЯ

п'еса ў 4-х акт.
са сьпевамі і танцамі.

АСОБЫ:

Янка.
Маланка.
Жыд.
Лясун.
Лясныя духі, русалкі.

### АКТ I.

Перад хатай. На прызьбе сядзіць Маланка і скрабе бульбу. Янка сячэ дровы. Сонца заходзіць.

#### Зьява 1.

**Янка і Маланка.**

**Янка** (абцірае пот з лоба). Ох, нешчасьлівае жыцьцё маё! Рабі ды рабі праз цалюсенькі дзень, аж ногі і рукі анямелі. Ад самых курэй мала-што не да паўдня малаціў, а цяпер вось трэба дровы сячы, хоць ты трэсьні! Рукі ад цапа яшчэ не адыйшлі, аж тут ад сякеры мала-што не адсохнуць — і ніскуль няма ніякае помачы!

**Маланка.** А я-ж табе не памагаю?

**Янка.** Э, што твая работа! ведама жаноцкая справа! Цюкнеш колькі разоў цапом, аж зараз цябе ліха і бярэ: то сядзеш, то ляжаш, то колікі падапруць, то якійсь чорт цябе душыць. Э! якая ваша бабская работа! плюнуць ня варта! Вось і цяпер: сядзіш дый бульбу скрабеш... Важная праца! А папрабавала-б так, як я, што-б тады сказала?

**Маланка.** Як не наскрабу бульбы і не звару, дык не вячэраўшы спаць пойдзеш. Вось кіну ўсё і гатуй сам, калі так гаворыш! (хоча ісьці ў хату).

**Янка.** (затрымоўвае яе). Ну, не, Маланка! Я ўжо больш нічога не скажу, толькі звары вячэру, бо, як лягу галодны, дык цыганы будуць сьніцца.

**Маланка.** Ну дык маўчы і сячы дровы.

Паўза. Янка, охаючы, сячэ дровы, пасьля сядае і зноў абцірае пот з лоба.

**Янка.** Ох, нешчасьлівае жыцьцё наша! Усё мусім гараваць дый гараваць. Мазоліцца трэба, аддыхнуць некалі, мала-што кроўю не пацею, пакуль на кавалак хлеба зараблю... Усё нам напроціў ідзе, на няшчасьце... Не спадзявацца нам ужо дабра! Нішто нам так не ўдаецца, як мы хочам. Каб гэта Адам — нащ першы бацька — не саграшыў, дык-бы і мы гэтак не працавалі. Ох, дурны-ж ён, дурны! Нашто яму было рваць яблык з праклятага дрэва, прападзі яно! Каб мне было гэта забаронена, дык я а ні крануў-бы, — і мы-б жылі цяпер у раі, як паны на зямлі, пілі салодку гарбату з цытрынай дый елі кілбасу з капустай, клопату ніякага ня мелі-б, аб сярмязе не клапаціліся-б, бо голыя ў раі хадзілі-б, — а цяпер як сярмяжка зьдзярэцца, хоць ты з галавы выйдзі, неадкуль узяць, — а тут і зіма падыходзіць, і сорамна... Ох, Адам! Адам! Як ты нас пагубіў! Нашто ты паслухаў сваю паганую бабу, Эву, і сарваў яблычка, што вісела на праклятым дрэве!.. Ох, гэтыя бабы! Уся бяда ад іх!...

**Маланка.** Няпраўда! Бяда толькі ад вас.

**Янка.** Не! Ад вас!

**Маланка.** А хто сарваў у раі яблык? Дык-жа ўсім ведама, што бабы па дрэвах ня лазяць.

**Янка.** Але яна прымусіла яго да гэтага. Мусіць, як прычапілася: сарві ды сарві! — дык каб ня дурыла галавы, пайшоў ды сарваў.

**Маланка.** Каб ён быў мужык, як сьлед, а не такая квашаніна, дык не паслухаў-бы яе...—Вось!

**Янка.** Праўда, што трэба было бабу палупцаваць... Ох, чаму гэта не я—Адам?! Калі-б ты толькі зірнула на гэтае праклятае ў раі дрэва, — як схваціў-бы!.. (жэст).

**Маланка.** Ого-го! Так-бы я й пазволіла!—Вочы выдзерла-б або змазала па галаве чым папала.

**Янка.** О-о-о! А я ўзяў-бы дзягу!..

**Маланка.** А я-б цябе качаргой па патыліцы!

**Янка.** А я-б за касу, галаву ўніз, дый дзягай, дзягай!

**Маланка.** Але? Ты мяне дзягай? Добра! Калі так, сам скрабі бульбу і вары сабе вячэру,—а я ня буду! (Кідае нож і міску і бяжыць ў хату).

#### Зьява 2.

**Янка** (адзін). Вось дык штука! І чаго-ж мы пасварыліся? Дык-жа ж мы не ў раі і няма шака тут ніякае яблыні!.. — Эх, бабы! бабы! Бяз сваркі нельга з вамі жыць!.. (пяе): *)

№ 1.

Як для бабы ні старайся,
Хоць ты працай убівайся,
Не дагодзіш ёй ніколі,
Ей заўсёды недаволі.

Не дасі рады кабеце,
Лад ужо такі на сьвеце. —
Яна верх заўсёды мае,
За чупрыну нас трымае.

Дык зусім няма ў тым дзіва,
Што ў раі жылось шчасьліва,
Покуль баба верх ня ўзяла,
Яблыкі рваць загадала.

Йшла гуляць па раі Эва,
Раптам бачыць: яблынь-дрэва!
Кліча да сябе Адама,
Бо дастаць ня можа сама.

А Адам—цялё дурное,
Замест лупцаваць за тое,—
Ён на яблынку ўзьлязае,
Яблыкі для ей зрывае.

З тэй пары няма ўжо долі,
Мы ўсе у бабскай няволі.
Шчасьця болей не спазнаем,
Бо на карку бабу маем.

А калі хто з нас захоча
Глянуць сьмела бабе ў вочы
Дый у рукі дзягу схваце—
Толькі зробіць пекла ў хаце.

Бо яшчэ той не радзіўся,
Хто-бы бабе спрацівіўся.—
Баба верх заўсёды мае,
За чупрыну нас трымае.

(Гавора): Хто ведае, мо' баба й ўзапраўды ня будзе варыць вячэры! А я такі галодны, што

*) На мэлёдыю народн. песьні „Ой у лесе пры даліне“...

# Каханьне.

Зьявілася; — і чую сіл крыніцу
І думы нязвычайные мае —
То боль жыцьця, то лёгкасьць сьмерці сьніцца
І сэрца незнаёмае пяе.

Яна-ж красой варожыць чараўніца:
Як гады віснуць косы з плеч яе,
А вочы з-пад павек—з-за хмар зарніца
І тайнасьць складак вопраткі заве.

Атручан хмельным соладам каханьня
На кліч таемны йду бяз дум, пытаньняў
Вітаці сьветлавокую Лауру

І з вуснаў рвецца ўжо сонэт
Такі гучны, як віхар дзікі ў буру
І радасны, бы ўлюблены поэт!

**Уладзімер Жылка.**

# З ПРЭСЫ.

## Ўражаньні з Валыні.

(Гл. № 14).

Аб падняцьці аўторытэту польскіх уладаў сярод украінцаў п. Tadeusz Hołówko піша ў «Robotniku» гэтак:

„Калі толькі польскія ўлады на Валыні хочуць падняць і падтрымаць свой аўгорытэт сярод мясцовага насяленьня, павінны абкелзаць польскіх абшарнікаў, якія прадстаўляюць там амаль што не адзіную дастойнасьць Польшчы.

Польскія абшарнікі маюць пратэнсію на тое, каб улада на Валыні фактычна належала ім і, ў кожным выпадку, каб урад трактаваў іх за адзіную, прывілеяваную дастойнасьць.

У часы Асмалоўскага старасты вербаваліся галоўным чынам з мясцовых абываталяў. Праз гэта няма нічога дзіўнага ў тым, што такі стараста, які напр., меў свае двары ў тым павеце, дзе спаўняў свае службовыя абавязкі, карыстаўся сваею службоваю ўладаю дзеля зьвядзеньня сваіх і сваіх прыяцеляў рахункаў з сялянамі.

Гэтыя паны толькі спэкулююць і і робяць парцэляцыю. Польшча ім патрэбна пастолькі, паскольки спагадае ім у гэтым.

З другога боку, калі Ўрад і Сойм хочуць, каб польскія вураднікі шанаваліся насяленьнем, дык павінен быць, нарэшце, палепшаны матар'яльны быт іх.

Цяпер гэта няшчасныя, што выклікаюць жаль сваею пэнсіяю. У банках у Роўным швэйцар адтрымоўвае болей, чымся дзелавод у старасьцьве. Адсюль няма нічога дзіўнага, што болей здольныя ўцякаюць, ня хочучы жыць у жабрацтве, на прыватныя службы, дзе могуць дастаць большае утрыманьне, калі ня хочуць красьць.

Маршалак Сойму Тромпчынскі высказаў свой пагляд, што вураднік, якому пэнсія здаецца малою, можа вольна адыйсьці,—паказаўшы гэтым адсутнасьць шчыра-дзяржаўнага сэнсу: Калі-б Урад і Сойм разьдзялілі пагляд Тромпчынскага, дык наша адміністрацыя была-б найгоршаю ўва ўсім сьвеце, бо складалася-б з зладзеяў ды ідыётаў.

На Валыні мне казалі, што ўцяканьне здальнейшых вураднікаў ёсьць разбурэньне, якое пагражае поўным падзеньнем аўторытэту польскіх уладаў на крэсах. Казалі мне аб пары вураднікаў, якія ня хоцуць красьці і якія праз гэта павінны прадаваць свае залатыя пярсьцёнкі, гадзіньнікі і г. д., абы пражыць. Цэлы рад вураднікаў не ўцякае толькі ў тэй надзеі, што лёс іх палепшыцца і лічаць за лепшае працаваць дзеля дзяржавы, ніж на прыватных прадпрыемствах.

Так ці іначай, а дзяржава павінна знайсьці радыкальнае разрашэньне палепшаньня быту вураднікаў, а то гангрэна хабарніцтва зьнішчыць нашыя вураднікія кадры. Асабліва спагадным грунтам дзеля рознага гатунку злаўжываньняў служаць рознага роду самастойныя інстытуцыі, накшталт Urzędów Ziemskich, Zbożowych і г. д., зусім незалежных ад старастваў і, як на крэсах, зусім нямаючых пад бокам ніякага кантралюючага органу, складзенага з прадстаўнікоў мясцовага грамадзянства. Наагул адною з найбольшых балячкаў Валыні, як і наагул «kresów» ёсьць тое, што мясцовае насяленьне да гэтых часаў пазбаўлена самаўрадаваньня. Магістраты й бургомістры назначаныя, меставых радаў зусім няма, гэтак-жа сама няма й валасных самаўрадаў, яшчэ меней самаўрадаў у валасьцёх, таму што войтаў назначае старасгва.

Не падлягае сумлеўку, што недапушчаньне мясцовага насяленьня да удзелу ў урадаваньні павінна даваць найфатальнейшыя рэзультаты. Гэта зьяўляецца ўдзячным грунтам для сваволі адміністрацыі, нязьвязанай зусім кантролем мясцавага грамадзянства, з другога боку насяленьне ня можа захоўваць ніякае пашаны да розных стаўленьнікаў бурмістраў, лаўнікаў, войтаў.

З пункту гледжаньня польскае дзяржаўнасьці адсутнасьць органаў самаўрадаваньня на „kresach“ ёсьць вельмі шкоднае зьявішча. Насяленьне пачувае гэту несправядлівасьць, саўсім натуральна бачыць у гэтым трактаваньне сябе, як грамадзян другога разраду, пазбаўленых палітычных правоў, належных усім грамадзянам на аснове конституцыі. „Хочам толькі, каб конституцыя 17 сакавіка ў прыватнасьці і ўва ўсім сваім аб'ёме спаўнялася“—гэткую думку заўсёды чуў з вуснаў украінцаў.

Калі-ж самаўрадаваньне дасюль яшчэ ня ўведзена на „kresach“ калі там, дасюль абавязковы „уставы окупацыйныя“, выданыя п. Асмалоўскім і Мінкевічам, што даюць надта шырок прастор компэтэнцыі старастаў, пазваляючыя ім, напр., без заяўленьня мотываў, пасадзіць якога хочаце грамадзяніна на 7 дзён пад арышт, альбо выслаць адміністрацыйна з «priedieɫow» павету, дык толькі таму, што Урад ня ведае, якое трымацца лініі павядзеньня адносна мясцовага няпольскага насяленьня. На Валыні украінцы складаюць 80% агульнага насяленьня. Палякі— 6—8%, рэшта -жыды й рускія. Нічога няма дзіўнага, што ў гэткіх варунках самаўрадаваньне воласьці й павету, абапёртае на тых самых уставах, што і ў Конгрэсоўцы, апынулася-б у руках украінцаў, а гэтак сама і ў гарадох большасьць была-б на старане жыдоў і рускіх. Тымчасам дасюль польскія ўлады заняты тым, каб стварыць уражаньне, што Валынь—гэта край польскі.

Гэта прыводзіць да абсурду. Бо каб падтрымліваць гэткае ўражаньне й далей, трэба не дапушчаць да выбараў у Сойм, або стварыць выбарную ордынацыю па курыях і г. д.

Першыя-жа выбары ў Сойм на аснове „5-cio przymiotnikowego“ закону аб выбарах паложаць канец гэтай ілюзіі.

Вось дзеля гэтага таксама трэба як найхутчэй паглядзець у вочы сапраўднасьці. Украінскія паслы лёгка заваююць у Сойме поўнае роўнапраўе Валыні з рэштаю Польшчы. Але было-б куды мудрэй з нашага боку, калі-б гэтае роўнапраўе мы сягодня-ж далі самі.

Але гэта зьвязана са ўсею сутнасьцю украінскага пытаньня ў Польшчы“.

(Канец).

# Палітычная хроніка.

*Пятніца*, 30 *верасьня.*

— Сабраньне Лігі Народаў аднагалосна пастанавіла даручыць Радзе Лігі, каб зьвярнула увагу дзяржаваў на патрэбнасьць урэгуляваньня ў найхутчэйшым часе праўнага палажэньня Усходняй Малапольшчы.

---

зьеў-бы, здаецца, навет сабаку! Трэба самому ўзяцца за бульбу!.. (сядае і скрабе бульбу).

**Зьява 3.**

**Янка і Жыд** (уваходзіць).

**Жыд.** Добры вечар!

**Янка** (да сябе). А прападзі ты! ня маю гдзе ад яго падзецца!

**Жыд.** Калі-ж ты мне, Янка, аддасі грошы за гарэлку?

**Янка.** Аддам, аддам, ліха ня возьмець!

**Жыд.** Усё кажаш: аддам, а я не магу дачакацца твайго „аддам“... Арэнду мне цяпер трэба плаціць...

**Янка.** Ну, пане арандару, ужо я табе шчыра кажу, што аддам, дык-жа ты добра ведаеш, што я лгаць ня ўмею.

**Жыд.** Ну, што ты кажаш!.. Калі ты аддаў тады, як абяцаў? Аддай канешна цяпер, бо я ўжо табе болей гарэлкі напавер даваць ня буду.

**Янка.** А прападзі ты з тваею гарэлкаю! Ня буду я ў цябе больш браць!

**Жыд.** Бяры — не бяры, хто цябе просіць! толькі маё мне цяпер аддай!

**Янка.** Ідзі ты вон ад мяне, бо мне трэба вось бульбу скрабаць, а не з табою языком бляузгаць!

**Жыд.** Аддай мне маё, дык я й пайду.

**Янка.** Ня лезь ты мне ў вочы, я табе кажу, бо я табе тут як задам, дык ты ані ярмулкі, ані атопкаў сваіх не пазьбіраеш!

**Жыд.** Ну, і што ты, сьвіньня, не аддаеш таго, што вінен—ой вай-мір-гівалт!—ды яшчэ лаешся!

**Янка.** Ідзі ты ад мяне і ня крычы, бо як мая баба ў хаце пачуе, што я ў цябе купляў гарэлку, дык і мне, і табе будзе дрэнна. Прыдзі другі раз!..

**Жыд.** Ну, што я цябе ўсё буду шукаць! Годзі ўжо я за табой нахадзіўся, лепш ты мяне пашукай!.. Пакуль не аддасі грошай, я вазьму ў цябе гэту сарочку. (Здыймае з плоту сарочку).

**Янка.** Ах, ты, паганскі сыну, аддавай сарочку! Гэта мае бабы сарочка!.. Злодзей ты гэтакі!.. (тузаюцца).

**Жыд.** Ну, і зашто ты, чорны год на цябе, лаешся! Дык аддай мне тое, што вінен!

**Янка.** Аддай сарочку!..

**Зьява 4.**

**Тыя ж і Маланка** (з хаты).

**Маланка.** Што тутака?.. Ай-ай!.. аддавайце маю сарочку, а то парвецё!.. (Вырваўшы з рук Жыда сарочку, б'е яго па карку). Ах, ты, гіцаль гэтакі! Вось я табе! вось я табе!..

**Жыд** (уцякаючы). Ай-вай-гівалт!.. Разбойнікі!...

**Янка.** Ага! Крычы цяпер! — Вось што значыцца папасьці ў рукі мае Маланкі!... Здорава адластажыць!

**Маланка.** Чаго гэта ён прыходзіў сюды?

**Янка** (хітра). А вось сама бачыла: хацеў украсьці сарочку. Ішоў міма і раптам: шасьць за кашулю! Я за ім пагнаўся і адабраў.

**Жыд** (паяўляецца ізноў). Ай-вай!.. Гэта ён сьвіньня, п'яніца, гарэлку бярэ, грошай ня плаце ды яшчэ брэша... (да Янкі) Аддай грошы за гарэлку!

**Янка.** А ражон табе ў горла! (гоніцца за ім; Жыд уцякае; Маланка хапае Янку за руку і затрымоўвае).

**Зьява 5.**

**Янка і Маланка.**

**Маланка.** Чакай!... Што гэта ён кажа? Значыцца ты ізноў браў у яго гарэлку і напіваўся?

**Янка.** Маланка! Гэта было ўжо даўно! Чарвяк якійсьці пад сэрцам засмактаў, дык трэба было яго замарыць...

**Маланка.** Вось які ты, п'яніца паганы! Гару тайком ад мяне локчаш дый яшчэ бярэш у жыда напавер!

**Янка** (сумна). Грошай ня было...

**Маланка.** Дык ня трэба піць!.. О, бедная я, бедная! Вось доля дала мне гэтакага мужыка п'яніцу! Загубіў ён маё жыцьцё!.. О, бедная я, бедная!...

**Янка.** Ты бедная і я бедны... Абое мы бедныя, нешчасьлівыя!.. (пяюць разам) *).

№ 2.

Бедны, бедны мы,
Бедны я і ты.
І як — няма ведама — } bis.
Выбрацца з бяды.

Калі-б цяпер у рай —
Бацькоў нашых гай
Мы прыпадкам трапілі — } bis.
Вось радасьць—ай-ай!..

*) На мэлёдыю: „Чамуж-ж мне ня пець“.

**Янка**

(солё).

Каб хацела ты
Есьць там яблыкі,
Ну дык-жа, Маланейка, } bis.
Было-бы бяды!

**Маланка**

(солё).

Крый-жа Божанька,
Каб я мелася
Хоць панюхаць яблычка } bis.
Як скажуць: нельга!

(разам):

Але ўжо капут,
Трэба жыці тут.
Ня відаць прасьвету нам } bis.
Ў жыцьці поўным жуд.

**Янка** (гавора): Ну дык ідзі, вары вячэру, бо мне ад гэтага пяяньня яшчэ болей захацелася есьці...

**Маланка.** Пасьпееш з козамі на торг!.. З голаду не памрэш! (выходзіць).

**Зьява 6.**

**Янка** (адзін; кладзецца пад кусьцікам).

Ах, бедны-ж я чалавек! Вось і жыда чорт на маю галаву нагадзіў!..—А ўсяму гэтаму Адам вінаваты! Каб ён не награшыў, дык-бы і жыд мне ў вочы за гарэлку ня лез, а я-б у раі штодзень па паўтара гарца з квартаю і палавінкаю выпіваў і ўсё сабе сьпяваў-бы: трам-да-трам-да-трам-да-там!.. А цяпер больш клопату, як піцьця... А, каб цябе чорт узяў, Адам! наліха табе было слухаць сваю бабу, трэба было табе яе дзягаю сьцебануць: каб да яе ліха не прыступіла, дык-бы яна табе ў вочы й ня лезла!.. Эгэ! каб-жа то я быў табою, ужо-б я Эве задаў дзягаю, ох, даў-бы! а сам у карчму дый пагуляў-бы!.. А цяпер хоць ты трэсьні гаручы, працуючы... Ох, Адам!.. Адам!.. (пазёўвае і засынае).

**Заслона памалу апушчаецца.**

— „Правда" паведамляе, што дэлегацыі Савецкага й Японскага Урадаў далей апрацоўваюць у Дайрэне будучы гандлёвы дагавор. Расейская дэлегацыя паставіла умову эвакуаваць з Сыбіру японскія аддзелы перад заключэньнем дагавору.

— У адным з пасяджэньняў вэнгерскага парлямэнту рэспубліканец Кофэр стрэліў з рэвольвэра да пасла Ракоўскага, які застаўся непашкоджаным.

— Савецкае прадстаўніцтва зьвярнулася да адпаведных польскіх уладаў з просьбаю злавіць нейкага Алалкадзэ, якому, як чалавеку, што мае добрыя адносіны з мясцовымі банкамі, адзін з супрацоўнікаў савецкай дэлегацыі даручыў разьмяніць 1000 даляраў. Атдрымаўшы грошы, Ахалкадзэ згінуў.

— З Лёндану паведамляюць, што адзін з працібальшавіцкіх павадыроў, барон Унгэрн, прыгаварам чразвычайкі ў Новамікалаеўску засуджаны на сьмерць. Прыгавар споўнены.

— У часе апошніх неспакойстваў у Бэльфасьце (Ірляндыя) загінула 20 асобаў; 12 цяжка раненых. Некалькі дамоў спалена, або разбурана.

— Савецкі Урад зрабіў заказаў розным нямецкім фірмам агулам на суму 1½ мільярда нямецк. марак. У Нямеччыну прыбылі з Расеі першыя транспорты тавараў, паміж іншым— 12 вагонаў пуху, тры параходы з воўнаю і тысяча тон азбэсту.

— Пасяджэньне амэрыканскіх дэмократычных сэнатараў пастанавіла, што па справе ратыфікацыі дагавору з Нямеччынай і Аўстрыяй кожны сэнатар можа галасаваць паводлуг уласнага сумленьня.

*Субота, 1 кастрычніка.*

— Аг. „Вольф" паведамляе з Нью-Иорку, што неспадзявана ўзмацнілася опозыцыя проці ратыфікацыі дагавору з Нямеччынай. Вільсон выступае проці ратыфікацыі.

— У лёнданскіх палітычных кругох гавораць аб новым плебісьцыце ў Верхн. Сьлезіі, як аб рэчы вырашанай.

— Лёнданскі корэсп. „Daily Algemeine Zeitung" паведамляе, што плян утварэньня з прамысловага вокругу Верхняе Сьлезіі нейкае аўтаномнае дзяржавы паходзіць з Італіі.

— Як паведамляюць францускія газэты, Рада Лігі Народаў будзе абгаваравацЬ Сьлезкую справу ў Парыжы.

— Ходзіць няспраўджаная чутка, што Рада Лігі Нар. пастанавіла падзяліць Сьлезію паводлуг лініі, падобнай да лініі Сфорцы.

— 27 верасьня польскі пасол ў Маскве, Філіповіч, выехаў у Варшаву.

— Паводлуг поўурадовых вестак з Канстантынопаля, палажэньне грэцкае арміі вельмі паважнае, якая стараецца плянова адыйсьці ў парадку да Сьмірны.

— Ёсьць весткі, што паслы саюзьнікаў у Канстантынопалі выслалі да Кэмаля-пашы ультыматыўнае жаданьне аб пераміры.

— З Канстантынопаля паведамляюць, што турэцкія авангарды знаходзяцца ў 30 кілёмэтрах ад Ісьміду.

— Паводлуг вестак з Мадрыду, гішпанцы страцілі ў баёх з паўстанцамі ў Мароко за час з 15 жніўня да 15 верасьня 11 тысяч забітымі і 23 тыс. раненымі.

— Да Рыму прыбыў новы польскі пасол пры Ватыкане п. Скржынскі.

— Швэцыя прызнала Літву de jure.

*Нядзеля, 2 кастрычніка.*

— Намечаны, паводлуг чутак, падзел Верхняе Сьлезіі па лініі Сфорцы мае быць рэзультатам думкі верхнясьлезкіх рабочых нямецкіх і польскіх арганізацыяў, а таксама іх прадстаўнікоў у Амстэрдамскім Цэнтры Міжнародных Профэсыянальных Саюзаў.

— Сэкрэтарыят Лігі Народаў разаслаў сябром пісьмо прадстаўніка Украіны, Шульгіна, з протэстам проці нарушэньня правоў Украіны Саветамі і просьбаю знайсьці спосабы вызваленьня Украіны.

— Баварская Рада Міністраў зацьвярдзіла дагавор, зроблены прэм'ерам гр. Лерхэнфэльдам з урадам Рэспублікі.

— Сябры злучанае камуністычнае партыі Нямеччыны, паслы бэрлінскага парлямэнту закладаюць новую партыю камуністых, саўсім незалежную ад Масквы.

— Прэзыдэнт Лацьвіі, Чакстэ, прыняў польскага пасла ў Рызе на ўрачыстай разьвітальнай аўдыенцыі.

— У Лёндане адбылася вялікая дэмонстрацыя безработных з рэвалюцыйнымі штандарамі.

— У Грэцыі, ў зьвязку з апошнімі няўдачамі на малаазіяцкім фронце, мацнее рэвалюцыйны рух. У Афінах абвешчана абложнае палажэньне. У Малой Азіі падчас апошніх баёў частка грэцкага гэнэральнага штабу папалася ў рукі туркаў, таксама шмат палявое артылерыі і ўся цяжкая. Аднак афінскае прэсбюро піша аб непраўдзівасьці вестак пра поўны пабой грэкаў.

— Французская Рада Міністраў пастанавіла склікаць 18 кастрычніка над'звычайнае пасяджэньне парлямэнту.

*Панядзелак, 3 кастрычніка.*

— У хуткім часе мае быць закладзены супольна ангельскімі й нямецкімі капіталістымі вялізны банк у Лёндане.

— Аўстрыйскі дэлегат у Лізе Народаў, граф Мундсдорф, заяўляе' што нельга спадзявацца вырашэньня Лігаю аўстра-вэнгерскай спрэчкі, бо Ліга ня мае рэальных спосабаў, дзеля адпаведных уплываў на вэнгерскі ўрад.

— У Будапэшце атдрымана неўрадовая вестка, што ў сераду абвешчана самастойнасьць Заходняй Вэнгрыі Радаю Краёвай Абароны, на чале якое пасол Фрыдрых.

— Польская Рада Міністраў пастанавіла запрапанаваць Начальніку Дзяржавы назначыць былышага міністра Рачкевіча наваградзкім ваяводаю.

— За абарону Фэдака, што страляў у Львове да ваяводы Грабоўскага і Начальніка Польскай Дзяржавы Пілсудскага, ўзяліся адвакаты: Макс Лейкін, Банковіч і Эвін.

— Ангельская Урадовая Камісія апекі над безработнымі аканчальна адмовіла ў выдачы безработным ўрадовых падмогаў. У адным толькі Лёндане пазбаўлены падмогі каля 300.000 чалавек.

— Ангельскі Урад адказаў дэ-Валеры, анулюючы свае папярэднія варункі й заклікаючы прадстаўнікоў ірляндзкіх незалежнікаў (сінфэйнэраў) на конфэрэнцыю ў Лёндане 11 кастрычніка.

— Савецкі дэлегат Красін прыбыў у Лёндан 28 верасьня.

— 28 верасьня ў Сьмірну прыбылі 2 грэцкія караблі, на якіх было каля 8.000 жаўнераў. Калі жаўнерам было прыказана высядаць, дык яны адмовіліся слухаць, а навет раздаліся крыкі: „далоў вайну!" Толькі тады, як прыгразілі, што караблі будуць выведзены з порту й затоплены мінаносцамі, жаўнеры павысядалі.

*Аўторак, 4 кастрычніка.*

— У расейскіх кругох у Гэльсінгфорсе (Фінляндыя) пацьвярджа-

# Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

**(Рэфэрат, чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 8 лістапада 1920 г.).**

1. Берасьцейскія перагаворы бальшавікоў з немцамі і дэлегаваньне на гэтыя перагаворы Рак-Міхайлоўскага і Цьвікевіча ад імя „Выканаўчага Камітэту" Рады Усебеларускага Зьезду. Я. Варонка—старшыня Выканаўчага Камітэту. — 2. „Народны Сэкрэтарыят". Стварэньне яго Вык. Камітэтам Рады Зьезду. Народныя Сэкрэтары, а не Народныя Камісары. „Вучнёўская Грамада" ў ролі беларускай гвардыі. — 3. Устаўная Грамата 19-га лютага 1918 г. (першая). — 4. Устаўная Грамата 9-га сакавіка 1918 г. (другая). — 5. Папаўненьне Рады Зьезду прадстаўнікамі Земстваў і Гарадзкіх Думаў і стварэньне такім чынам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.—6. Устаўная Грамата 25-га сакавіка 1918 г. (трэцяя) і абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі незалежнаю. — 7. Прадстаўнікі Віленскай Беларускай Рады на пасяджэньні Р. Б. Н. Р. 25-га сакавіка 1918 г. і барацьба з „тоже белоруссамі". Выхад з Рады Рэспублікі прадстаўнікоў земстваў і гарадзкіх думаў, а таксама і прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў. Увахад у Раду „Беларускага Народнага Прадстаўніцтва". — 8 Закон 9-га кастрычніка 1918 г. і папаўненьне Рады Рэспублікі буржуазнымі элемэнтамі. Рада Народных Міністраў.—9. Бальшавіцкая навала і пярэрва Сэсіі Рады. — 10. „Советская Социалистическая Белоруссія". Маніфэст Рабоча-Сялянскага Ураду ад 1 га студня 1919 г. і пацьвярджэньне незалежнасьці Беларусі бальшавікамі.— 11 Рада Народных Міністраў заграніцаю.—12. Віленская адозва Пілсудскага 23 красавіка 1919 г. Шляхоцкі лёзунг „вольны з вольным, роўны з роўным". — 13. Заняцьце Менску палякамі 8-га жніўня 1919 г. і аднаўленьне ў канцы гэтага году Сэсіі Рады Рэспублікі. — 14. 13-га сьнежня 1919 г.—раскол Рады Б. Н. Р. — 15. Старшыня Рады Народных Міністраў Ластоўскі і частка Прэзыдыуму Рады Рэспублікі ў Менскім вастрозе. — 16. „Найвышэйшая Рада" цэлы час польскай окупацыі ў Менску.—17. Ластоўскі і Старшыня Рады Рэспублікі ў Рызе. — 18. Самаліквідацыя Найвышэйшай Рады. — 19. Балаховіч і Беларускі Урад Адамовіча, праўдзівей Аляксюка.—20 Рыжаскі мір і прызнаньне незалежнасьці Беларусі Расеяй і Польшчаю. Падзел Беларусі лініяй Рыжаскага міру.—21. Законны Урад.

---

Ня змогшы вакарыстаць Усебеларускі Зьезд дзеля сваіх палітычных мэтаў, бальшавікі проста разагналі яго.

Што спробы насласць сваіх агентаў на Зьезд бальшавікамі рабіліся аб гэтым можа сьведчыць гэткі дакумэнт, апублікованы газэтаю „Бѣлорусская Земля" (№ 1 за 1. III. 1918 г.):

„Телеграмма. Западофронт. Полукорову.
Сообщите товарищам, чтобы на съѣздѣ бѣлоруссовъ Рады они произвели переворотъ умовъ расколъ и выяснили буржуазность ея это требуется.
Главкозап Мясников".

Скарочанае „Главкозап" парасейску значыць: „Главнокомандующій Западным фронтом".

Калі гэткая спроба не памагла, тады быў адданы гэткі прыказ, апублікованы ў той самай газэце „Бѣлор. Земля":

**Комиссаріат**
Внутреннихъ Дѣлъ
*Западной области.*

**Товарищу Рэзаускому.**

*17 декабря 1917 г.*
№ 1425.

Предписывается Вам, имѣя въ своем распоряженіи достаточно вооруженную силу, оцѣпить зданіе, гдѣ происходитъ засѣданіе Бѣлорусскага Съѣзда, арестовать Президіумъ Съѣзда, а равно избранный имъ органъ краевой власти; отозвать со Съѣзда т т. большевиковъ и стоящихъ на точкѣ зрѣнія Совѣтской власти, а самый Съѣздъ объявить распущеннымъ.

Комиссаръ *К. Ландер.*
Секретарь (подпіс).

(М. П.)

Бальшавікі крыху пасьпяшыліся. Орган краевое ўлады, аб арэшце якога рабіў распараджэньне Ляндэр, яшчэ ня быў выбраны, хаця гутарка на Зьездзе аб гэтым ужо час ішла і, пэўна, пасьля прыняцьця Зьездам агульнае рэзалюцыі, дзеля спаўненьня яе Зьезд выканаўчы орган выбраў-бы.

Пасьля гвалтоўнага разгону Зьезду, Рада Зьезду адтрымала ўсе поўнамоцтвы па конструіраваньню выканаўчага органу і карысталася, як толькі магла, ўсе магчымасьці гэтых поўнамоцтваў.

Рада Ўсебеларускага Зьезду мела ў сваім складзе больш, як 50 чалавек. Трымацца ўсёй гэтай грамадзе людзей у Менску ня было ніякай магчымасьці, бо коштаў на гэта ніякіх ня было.

Трэба ад'значыць, што арыштованых чалавек 18 сяброў Рады Зьезду (ў якую ўходзіў і Прэзыдыум Зьезду) бальшавікі пратрымалі ў сябе толькі адну ноч, ці праўдзівей кажучы, ўсяго некалькі гадзін. Сярод арыштованых былі: Я. Серада (старшыня Зьезду), Вазіла (тавараш старшыні), Калядка (сэкрэтар Зьезду) Бурбіс, Варонка і інш.

Як толькі арыштованыя былі выпушчаны, яны зараз-жа паказаліся на тайных пасяджэньнях Рады Зьезду, якая засядала вельмі часта ў розных частках гораду і на адным з гэткіх пасяджэньняў быў выбраны выканаўчы орган, разьмяркованы па ліку сваіх сяброў так, каб у патрэбны час ён мог стаць урадам, абняўшы ўсе галіны дзяржаўнага кіраваньня.

Найбольш энэргіі для стварэньня гэтага выканаўчага органу, (які і называўся проста: „Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду"), палажыў будучы Старшыня яго Язэп Варонка. Хаця Рада Зьезду й выбірала сяброў Выканаўчага Камімэту, але фактычна яна прыняла, з некаторымі зьменамі сьпісак, запрапанованы Варонкаю.

Ў Вык. Камітэт былі выбраны: Варонка (заграпічныя справы), Рак-Міхайлоўскі (ваенныя справы), Серада (ўнутраныя справы), Косьцевіч (прасьвета), Прушынскі (праца), Бадунова (апека), Грыб (земляробства), Заяц (загадчык справаў Камітэту). Далей у склад Выканаўчага Камітэту ўваходзілі: Лагун, Дыла, Бурбіс, Кусэ Цюз і інш.

Ў складзе Камітэту было ўсяго 17 чалавек.

Проектаваўся ўвахад у склад Выканаўчага Камітэту прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў Беларусі, што і было праведзена Я. Варонкаю па меры магчымасьці. Ад жыдоў у Камітэт увайшоў Гутман (злучаная соцыялістычная партыя); д-р Зарубавель (Поалей Ціон), ад ліцьвіноў—Мічуліс, ад палякоў—Прыстор (Р. Р. S.), ад велікарусаў—Злобін. Жыдоўская соцыяль-дэмократычная партыя „Сунд" прысылала свайго прадстаўніка на сходы Вык. Камітэту, але толькі з „інформацыйнымі мэтамі".

Само сабою зразумела, што Выканаўчы Камітэт папоўніўся прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў не адразу, а па меры ўдачнасьці перагавораў Старшыні яго з кожнаю палітычнаю групаю.

Старшынёю Вык. К-ту быў выбраны Язэп Варонка, які вельмі спрытна зразумеў, з якімі групамі весьці перагаворы і, як мае быць, выкарыстаў, якія толькі мог, магчымасьці.

З усім імпэтам маладое патрыятычнае натуры, Варонка аддаўся ўсёю душою сваёй нялёгкай ролі і ў гэтай ролі набыў першыя сівыя валасы на маладой галаве сваёй.

Ніякіх фінансаў Выканаўчы Камітэт ня меў, усім сябром яго, праз гэта ня было магчымасьці трымацца ў Менску і было пяць, ці шэсьць дзён такіх, калі Варонка заставаўся на сваім пасту адзін, ня падаючы духам. Сябры Выканаўчага Камітэту Рак-Міхайлоўскі і Грыб былі адначасна й сябрамі Цэнтральнай Вайсковай Беларускай Рады, якая чамусьці

ецца вестка аб забойсьцьве Іоффэ.

— На пленарным пасяджэньні Маскоўскае Рады Калінін далажыў аб справе галодных. У 15 губэрнях церпяць голад 30 мільёнаў жыхароў; найболей зьнішчаны: Самарская губ., Татарская Рэспубліка й Нямецкія колёніі.

— Пасьля летніх канікулаў пачаў працаваць нямецкі парлямэнт. На першым пасяджэньні, прэзыдэнт спамянуў пяць памёршых за лета паслоў; гаворачы аб Эрцбэргэру, падкрэсьліў, што забойства яго было звычайным нападам правакацыйных забойцаў.

— Францускія газэты спадзяваюцца рашэньня верхнясьлезкае справы на гэтым тыдні.

— Ходзяць чуткі, что ў Францыі замест Брыяна мае быць прэм'ер-міністрам Пуанкарэ.

— Паслы фінляндзкага парлямэнту ў хуткім часе маюцца выехаць у Лацьвію. 25 верасьня прэзыдыум парлямэнту вызначыў спэцыяльную камісію дзеля з'арганізаваньня гэтай падарожы.

— У Менск прыбыў Тульскі эшалон польскіх рэпатрыянтаў і 900 вайсковых закладнікаў з Казані.

— Учора, 3 кастрычніка, ў Маскве меў стаць на суд рэвалюцыйнага трыбуналу вядомы польскі артыст Шчавінскі, абвінавачаны ў спробе вывазу з Сав. Расеі золата й біжутэрыі. Шчавінскаму пагражае сьмяртэльная кара.

*Серада, 5 кастрычніка.*

— З Канстантынопаля паведамляюць, што атакі туркаў у районах Бэлюбэджык і Афюн-Карагісар нязьмерна затрудняюць пляновы адход грэкаў.

— У парыскіх вайсковых кругох адтрымана вестка з Канстантынопаля, што пад кіраўніцтвам ангельскіх афіцэраў умацаваны пазыцыі ў Ушаку, дзе грэкі замерваюцца зрабіць апошняе апірышча.

— З Чыты ў Маскву прыйшла дэпэша аб тым, што Уладывастоцкі Урад Мэркулава скінуты палкоўнікам Малчанавым, які пачаў перагаворы з мясцовымі социялістымі.

— „Pat" паведамляе што у Маскве за адну ноч заарыштована 82 палякі.

— 22 верасьня у Кіеве распачалася праца рэпатрыяцыйнай польскай дэлегацыі пад кіраўнітцтвам інжынэра Рашкоўскага.

— Румынія паведамляе што у яе няма замераў нападаць на Савецкую Расею, асабліва ў гэты страшны і галодны для Расеі час. Саветы-ж наадварот увесь час крычаць аб нейкай ваеннай інтэрвэнцыі.

— Мэеровіц паведаміў, што абмен нот паміж Лацьвіяй і Сав. Расеяй ня будзе мець кепскіх уплываў на гандлёвыя перагаворы паміж дзьвюма гэтымі дзяржавамі.

— Вэнгерскі урад зьбіраецца склікаць Народны Сход, на якім будуць абгавараваццa прычыны, якія змусілі ўрад згадзіцца на ультыматум коаліцыі.

*Чацьвер 6 кастрычніка.*

— Начальнік Польскае Дзяржавы 3 гэтага кастрычніка выехаў у Горадзен на сьвяткаваньне 1-х угодкаў звальненьня места ад бальшавікоў. У характары прадстаўніка кабінэту выехаў туды-ж Даўнаровіч.

— У зьвязку з жаданьнямі Саветаў аб выданьні параходаў якія знаходзяцца у Нью-Іорскім порце, адбыўся аб'яднаны суд Зл. Штатаў, які ня прызнаў Саветы юрыдычна адпаведнай адзінкай і адмовіў у выдачы параходаў.

— Міністар заграгнічных справаў Манголіі зьвярнуўся да Чычэрына з просьбаю ўзяць на сябе пасрэдніцтва на вядзеньне перагавораў паміж Манголіяй і Кітаем; Чычэрын згадзіўся.

— 3-га кастрычніка г. г. памёр у Варшаве польскі гэнэрал Лесьнеўскі, быўшы ваенны міністар. Памёршы быў сябром Вайсковае Рады і начальнікам польскага вайсковага камітэту ў Маскве.

— 3-га кастрычніка г. г. ўрачыста адбылося традыцыйнае адчыненьне Варшаўскага Унівэрсытэту.

— У апошні час у Расеі зноў змацніўся тэрор. У Адэсе за апошні час расстрэлена 63 сябры паўстанчай арганізацыі, быццам меўшае сувязь з Пятлюраю.

— 88 гмін Пшчынскага павету (Верх. Сьлезія) злажылі рэзалюцыю, аб далучэньні іх да Польшчы, якую і адправілі ў Лігу Народаў.

— Дзеля значна вялікага пашырэньня камуністычнай пропаганды ў В. Сьлезіі, павятовыя кантралёры адтрымалі загад зараз-жа абвясьціць аблажнае палажэньне.

— У аўторак мае выехаць з Варшавы ў Харкаў польскае пасольства на Украіне.

— 5 кастрычніка прыбудуць у Баранавічы польскія палітычныя палонныя, якіх доўга трымалі па турмах бальшавікі. Сярод палонных шмат афіцэраў Сібірскіх палкоў. Спатканьне будзе насіць урачысты характар.

— На пленарным пасяджэньні Лігі Нар. пастаноўлена прыняць да ведама абвешчаньне незалежнасьці Албаніі.

— Фрыдрых заявіў, што яго проклямацыя аб Зах. Вэнгрыі, зьяўляецца толькі абвешчаньнем самаўраду.

— Аўстрыя згадзілася выслаць прадстаўнікоў у Вэнэцыю дзеля абгавору аўстра-вэнгерскага конфлікту.

# Замежныя весткі.

## Новая праца проф. Карскага.

Вядомы беларусазнаўца акадэмік Карскі, які жыве цяпер у Петраградзе, выпусьціў з друку сваю новую кнігу — „Бѣлоруссы. III—2". Том гэты ахапляе старую беларускую пісьменнасьць. („Б. В.").

## Савецкае выдавецтва беларускіх кніжак.

Поэт Цішка Гартны (З. Жылуновіч) прыехаў у Коўна і знаходзіцца ў місіі Маскоўскае Савецкае Рэспублікі. Мэта яго падарожы: заказ за граніцамі Савецкае Беларусі некалькіх падручнікаў і розных кніжак на беларускай мове. („Б. В.").

### Беларускія нявольнікі «культурнейшае» нацыі.

Ось што піша аб службе у так званых „чужаземных легіёнах" (Legion Etranger) адзін з беларускіх афіцэраў — падручнік *** якога прымусіў голад згадзіцца 1½ года назад на паступленьне да легіёнаў. „Французы са ўсяго сьвету вярбуюць людзей дзеля папаўненьня легіёнаў. Яны нахабна лгуць, што там дужа добра. Мне гаварыў сам шэф францускае місіі ў Рызе, што кантракт на 5 гадоў, афіцэрам прывілеі, пэнсія 90 франкаў у месяц, падмога 750 франкаў, якія выдаюцца ў 2 тэрміны, перш. 250 і праз ½ года яшчэ 500, вывучэньне францускае мовы і, пры жаданьні, ангельскае у м. Марсэлі, а пасьля адсылаюць да Афрыкі.

Аказваецца у жыцьці: кантракт 5 гадоў, гэта праўда, праз тры гады, пры жаданьні, можна прыняць францускае падданства, пэнсія толькі 22 фр. 50 сант., адпраўляюць проста ненавучаных у легіёны, дзе і школяць на месцы кватэраваньня. Уласныя рэчы адыймаюць зусім і за іх нічога не даюць грошай. Палкавыя крамы зьядаюць усе жаўнерскія грошы, бо вымагаюць страшэннае чыстаты, але ні мыла, ні ваксы не даюць... Вышкаленьне — два месяцы з мордабіцьцем капраляў, гарачыня да 20 верасьня да 50°. Працуема ўвесь дзень:

бальшавікамі ня была зьліквідована і працавала зусім легальна, выкінуўшы вялізны беларускі штандар у доме № 2 па Паліцэйскай вуліцы. Рак-Міхайлоўскі быў навет Старшынёю Вайсковай Рады і, як такі, быў цалком заняты вайсковымі справамі.

Легальнае, пакуль што, істнаваньне Вайск. Рады дало магчымасьць матар'яльнага утрыманьня і досіць вольнае працы Выканаўчага Камітэту Рады Ўсебеларускага Зьезду.

Але хай не падумае ніхто, што Вайсковая Рада мела якія-нібудзь свае фінансы. Яна мела толькі дарэмную кватэру і дарэмныя сьнеданьні, абеды й вячэры ў аднэй з арганізацыяў Гарадзкога Саюзу, яшчэ гэтак сама незьліквідованай бальшавікамі.

Спачуцьцё грамадзкіх арганізацыяў было гэтак моцнае, што Гарадзкі Саюз зусім дарма і досіць добра карміў у сваёй сталоўцы ўсіх сяброў Вайсковай Беларускай Рады, а разам з імі і частку сяброў Выканаўчага Камітэту ў тым ліку й Старшыню яго.

Чугуншчыкі і паштова-тэлеграфныя служачыя Менску, дэмократычныя земствы і гарадзкія самаўрады мелі ня меншую сымпатыю да цэнтральных беларускіх органаў, хаця, праўду кажучы, адно толькі Бабруйскае павятовае земства (управа) дало Камітэту 3.000 рублёў, паставіўшы варункам, што грошы гэтыя павінны пайсьці на скліканьне другога Ўсебеларускага Зьезду. Гэта апошняе было немагчыма і частка бабруйскіх грошай была зьвернена назад у Павятовую Земскую Управу.

Тэлеграфістыя й тэлеграфісткі адкрыта працавалі на карысьць беларускага руху і ня раз можна было бачыць, як ваенны камісар Беларускай Вайсковай Рады Язэп Мамонька зьмяняў пры апараце Бодо бальшавіцкага ад'ютанта самога Главкозапа Мясьнікова, аддаючы распараджэньні Вайсковым Беларускім Радам у Кіеве, Адэсе, Віцебску і г. д.

Ня раз побач з Ляндэрам мог простым провадам гаварыць з Петраградам, Масквою, Кіевам і інш. Язэп Варонка, ўзаемна інформуючыся з прадстаўнікамі беларускіх арганізацыяў.

Тэлеграфна была зроблена Варонкаю й першая дзяржаўная пазычка ў украінскага Гэнэральнага Сэкрэтарыяту у суме... 20.000 рублёў; але й гэтыя невялічкія грошы, перасыланыя праз аднаго беларускага „дзеяча" з Кіева ў Менск да касы Выканаўчага Камітэту ня трапілі.

Так, перабіваючыся з хлеба на квас, упарта працавалі Цэнтральная Вайсковая Беларуская Рада й Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду, грамадзячы беларускія сілы і, напруджваючы моц у кірунку стварэньня нацыянальнае аружнае сілы.

На старану Цэнтр. Вайсковае Рады ўжо згадзіўся перайсьці цэлы адзін полк менскага гарнізону, прапануючы даставіць у кватэру Вайсковай Рады, як доказ вернасьці аж 18 кулямётаў, стрэльбы і шмат ручных гранатаў. Разьнюхаўшы гэта, бальшавікі загадалі палку выехаць у Арол быццам на нейкае усьмірэньне. Салдаты заявілі, што яны беларусы, а таму нікуды не паедуць і хочуць служыць сваёй Бацькаўшчыне. Палку была закрыта бальшавікамі выдача провіянту, ў Вайсковай Рады ня было марных 20.000—30.000 рублёў, каб утрымаць полк пару дзён, падгатовіўшы яго да пераваропу, які, пры слабасьці большавікоў, мог лёгка адбыцца за адну якую-нібудзь ноч. Вайсковая Рада з дэлегатамі палку рашыла здэмобілізаваць яго, каб прапаў ён, як сіла, і для бальшавікоў і ўсе салдаты-патрыёты былі разасланы дамоў па дакумэнтах Беларускай Вайсковай Рады.

У Выканаўчы Камітэт Рады Зьезду надходзілі адусюль корэспондэнцыі і на ўсе запросы Камітэт адказваў па магчымасьці поштаю, ці тэлеграфам.

У кватэры Вайсковай Рады нейкі час і жыў Старшыня Выканаўчага Камітэту, Варонка, аж пакуль не налажылі бальшавікі сваю лапу й на самую Вайсковую Раду.

31 студня 1918 году Вайсковая Рада была атачана салдатакі й матросамі, як расказавалі, забойцамі гэнэрала Духоніна, прыехаўшымі з расейскае Галоўнае Кватэры з Магілёва.

Аб гэтым усё ў той-жа «Бѣлор. Землѣ» (№ 1) апублікованы гэткі дакумэнт:

Совѣтъ Рабочихъ и Солдатскихъ Депутатовъ гор. Минска. Отдѣлъ по борьбѣ съ контрреволюціей и спекуляцыямі. 31 января 1918 г. № 39.

*Товарищу Ярошевичу.*

**Ордер.**

Предписывается Вам отправиться въ Бѣлорусскую Войсковую Раду, домъ № 2, кв 10, по Полицейской улицѣ, для производства обыска и ареста всѣхъ лицъ, там находящихся, въ томъ числѣ и посыльнаго мальчика Афанасія.

Предсѣдатель *Л. Резаусскій.*
Секретарь *Ж. Баренс.*

У момэнт гэтай рэвізіі ў Вайсковай Радзе былі апрача Таварыша Старшыні Вайск. Рады К. Езавітава й Сэкрэтара яе Захаркі,—сябры Вык. Камітэту: Варонка, Косьцевіч, Бадунова і сябар Рады Зьезду А Смоліч.

Здавалася, што ўсе былі папаліся, але першая бальшавіцкая „чрезвычайка" вельмі неакуратна споўніла даны ёй ордэр і, з усіх «находящихся там ліц», затрымала толькі К. Езавітава й Захарку, якія назваліся, хто яны і 14 гадовага хлопчыка Апанаса. Рэшта была выпушчана праз абстаўленыя салдатамі сходы (бо кватэра В. Рады была на 2-м паверху). Тут памаглі сяброўскія білецікі „Беларускае Соцыялістычнае Грамады", якія былі паказаны „тав. Ярашэвічу", як быццам доказ таго, што тут засядаў Цэнтральны Камітэт Соцыялістычнае Грамады, шыльд якой сапраўды быў прыбіты на дзьвярох аднаго з пакоікаў.

Цынічны арышт хлопчыка Апанаса і арыгінальны дапрос гэтага непоўналетняга блазна ня даў бальшавіком нічога новага, дый часу ім заставалася менш як тры тыдні, каб у страшэнным перапудзе пакінуць і сваю любімую „Западную область" і фактычна памёршы „Западный фронт".

„Рэвалюцыйны полк" Ремнёва першы рассыпаўся хто куды, як толькі азначылася наступленьне немцаў пасьля адважнай заявы ў Берасьці Троцкага: „не падпішам міру, але й ня будзем ваяваць".

Пакінуты ў Менску гарнізон часткаю распаўся, а часткаю перайшоў на старану беларускае ўлады.

**Краўцоў Макар.**

(Працяг будзе).

